*Вячка Целеш*

# ВАЎКАВЫСКІЯ ПАШТОЎКІ

## 1910 - 1939

***Каталог***














2021

**У каталозе выкарыстаны паштоўкі і фотапаштоўкі з архіва В. М. Целеша, а таксама з іншых збораў:**

33 - З сайта http://foto.volkovysk.by
49 - З калекцыі карыстальнікаў afmks myvimu.com (https://myvimu.com)
53, 59, 62, 63, 65, 72, 73, 74 – Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі
56 - З сайта www.radzima.org
58, 59, 62, 65, 72, 73, 74 – Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея імя П. І. Баграціона
60, 61 - М. І. Быхаўцава
64 - І. Мацейкі

**Падзяка аўтара за дапамогу ў зборы інфармацыі для каталога:**

Але Суета, Мікалаю Быхаўцаву, Ніне і Ігару Мацейкам, Алесю Зайцаву, Аляксандру Грушу, Джоанне Бліхарскай (Joanna Blicharska), Канстанціну Шастоўскаму, Міхасю Казлоўскаму

Вячка Целеш. Ваўкавыскія паштоўкі 1910 – 1939. Каталог. Рыга. 2021
(Vjačka Ceļešs. Vaukaviskas atklātnes 1910 -1939. Katalogs. Rīga. 2021)

Рэдактар
Міхась Казлоўскі
Карэктар
Марыя Памецька

ISBN 978-9934-23-407-1



Nodrukāts SIA "Zelta Rudens Printing" tipogrāfijā. Rīga. Kandavas 39, tel.: +371 67624955

# З гісторыі паштовак

## З'яўленне паштовак у свеце

Паштоўкі, або адкрытыя пісьмы (так іх раней афіцыйна называлі), з'явіліся ў другой палове XIX стагоддзя. З гісторыі пошты вядома, што з самага пачатку існавання дзяржаўнай пошты пісьмы, напісаныя на лістах паперы, адпраўляліся ў закрытым канверце з наклеенай маркай – аплаты за паштовую паслугу. З развіццём паштовай камунікацыі ў аўстрыйскага эканаміста Эмануіла Германа з'явілася ідэя пасылаць па пошце кароткія пісьмовыя паведамленні без канверта, на невялічкіх картачках аднолькавага фармату са шчыльнай тоўстай паперы. Яго ідэю падтрымала мясцовая ўлада і 1 кастрычніка 1869 года ўпраўленне пошт Аўстра-Венгрыі выдала для продажу бланкі першых адкрытых пісьмаў. На адным баку паштоўкі былі надрукаваны дзяржаўны герб, жоўтая марка, надпіс: "Correspondenz-Karte", а таксама лініі для адраса. Адваротны бок паштоўкі прызначаўся для пісьма. Такі спосаб паштовай сувязі быў таннейшым за перасылку пісьмаў у канвертах, павялічваў большую карэспандэнцыю і атрымаў попыт на іх набыццё. Ён хутка стаў распаўсюджвацца на іншыя дзяржавы. Гэта былі першыя ў свеце, афіцыйна выдадзеныя неілюстраваныя паштоўкі.

Першай ілюстраванай паштоўкай сярод калекцыянераў-філакартыстаў лічыцца нямецкая паштоўка. Падчас франка-прускай вайны ў Германіі кнігагандляр А. Шварц выдаў у ліпені 1870 г. і адправіў па пошце з Ольдэнбурга ў Магдэбург паштоўку; на адрасным баку якой былі надрукаваны лініі для адраса, месца для маркі і маленькі, як марка, малюнак салдата ля гарматы. Крыху пазней, а больш дакладна 18 верасня 1870 г., у Францыі былі афіцыйна выдадзены адкрытыя пісьмы "балоннай" пошты (перасылка пісьмаў на паветраных шарах). На адрасным баку паштовак меўся малюнак эмблемы рэспубліканскай Францыі са сцягамі, дубовымі і лаўровымі галінкамі і надпісам па-французску: "Свабода, роўнасць, братэрства"; малюнак быў невялікага памеру, трохі большы за марку. Пазней, у лістападзе 1870 года, у Францыі кнігагандляром Леонам Бернардо, падчас франка-прускай вайны, была выдадзена яшчэ адна паштоўка. Яе адрасны бок быў афомлены мастаком у выглядзе сувенірнай віньеткі з лініямі. На малюнку са зброяй, што стаяла ў козлах, з гербам і стужкай і займала амаль усю адваротную частку паштовай карткі; яна ўжо была больш падобная на сённяшнія. Так з'явіліся першыя ў свеце ілюстраваныя паштоўкі.

З 1 студзеня 1872 г. на тэрыторыі Расейскай імперыі (тады Беларусь уваходзіла ў яе межы) з'явіліся першыя неілюстраваныя адкрытыя пісьмы (паштоўкі). Дзяржаўнае паштовае ведамства пачало выпускаць бланкі адкрытых пісьмаў, якія прадаваліся ў паштовых аддзяленнях на тэрыторыі імперыі. Гэта былі кавалачкі шчыльнай светла-карычняватай паперы 9 на 12,6 см.. Адзін бок іх прызначаўся для адраса, а другі для пісьма. На адрасным баку паштовак былі надрукаваны: дзяржаўны герб, пад ім знак пошты – два ражкі, надпісы: "Открытое письмо", "Место для марки", "Место для адреса", а пад лініямі для адраса надпіс:

"1. Открытое письмо должно быть сполна оплачено соответственною почтовою маркою.
2. На этой стороне, кроме адреса, не дозволяется ничего другого писать".

На баку паштоўкі для пісьма ў рамцы меліся надпісы: "Место для письма" і "Почтовое управление за содержание письма не отвечает".

З гэтага ж года паштовае ведамства пачало выпускаць бланкі неілюстраваных паштовак з надрукаванымі на адрасным баку гербам, маркай і ўжо без рамкі і без папярэджваючых надпісаў. Паштоўкі абодвух выпускаў хадзілі і па тэрыторыі Беларусі.

У пачатку 1890-х гадоў некаторыя выдаўцы-гандляры, уладальнікі кнігарняў і фотамайстэрняў, пачалі выкарыстоўваць частку месца для пісьма, на бланках неілюстраваных паштовак з дзяржаўным гербам, друкуючы там тэксты рэкламы, святочныя віншаванні, а таксама здымкі відаў свайго горада. Такім чынам, першыя ілюстраваныя паштоўкі на тэрыторыі былой Расейскай імперыі пачалі з'яўляцца ўжо ў 1893 г. у Рызе, Іркуцку. Аднак ілюстрацыя займала шмат месца, таму часта карэспандэнты тэкстам свайго пісьма залазілі на

саму карцінку, ад чаго выгляд яе быў не вельмі прыгожы, але попыт на такія паштоўкі павялічваўся. Гэта і падштурхнула ўлады на дазвол прыватным выдаўцам рабіць і друкаваць ілюстраваныя адкрытыя пісьмы. Афіцыйна яны пачалі выдавацца пасля пастановы Міністэрства ўнутраных спраў Расеі ад 19 кастрычніка 1894 г., На жаль, на паштоўках выдаўцы вельмі рэдка друкавалі год выдання, таму складана вызначыць час з'яўлення першай паштовай карткі на тэрыторыі Расейскай імперыі, як і год выхаду першай паштоўкі любога горада. Філакартысты-даследчыкі, звычайна для вызначэння года выдання паштовак, карыстаюцца паштовым штэмпелем з датай паштоўкі, якая прайшла пошту, або надпісам даты пісьмовага паслання.

Таму на сённяшні час, першай ілюстраванай паштовай карткай на тэрыторыі былой Расейскай імперыі лічыцца паштоўка з выявай Рыгі, выдавецтва "Druk u.Verlag v. C. Schulz Riga" ("Друк і выданне Карла Шульца ў Рызе"), з датай 16 снежня 1893 г. на паштовым штэмпелі. Знойдзена гэта паштоўка і апублікавана ў часопісе "Филокартия" калекцыянерам з Таліна Індрэкам Іломэтам. У латышскага філакартыста Талыса Пумпурыньша ёсць паштоўка з відам Рыгі таго ж года выдання, але яна іншага рыжскага выдавецтва "Verlag v. Ottomar Grünwaldt & Co Riga". Толькі дата на паштовым штэмпелі трохі пазнейшая – 18.12.1893. Гэтыя паштоўкі ў 1893 годзе друкаваліся на дзяржаўным бланку неілюстраваных паштовак з гербам, але яшчэ да выдання вышэйзгаданай пастановы. Рыга ўваходзіла ў Расейскую імперыю, але мела больш цесную сувязь з развітымі Германіяй, Францыяй, Англіяй і іншымі прагрэсіўнымі еўрапейскімі краінамі, што і паўплывала на яе першынства ў выданні больш ранніх ілюстраваных паштовак – як сродку дробнага бізнесу.

Часта бывае, што калекцыянеры-філакартысты пры размове і нават у публікацыях, разважаючы пра першыя выданні паштовак свайго горада, згадваючы пра год іх выдання, не называюць дату ці не даюць крыніцу, дзе можна было б яе ўбачыць, ці дазволіла б падцвердзіць яе першынства. Першым выданнем той ці іншай паштоўкі сярод калекцыянераў лічыцца тая, на якой ёсць надрукаваны год выдання, паштоўка, якая прайшла пошту і мае штэмпель або надпіс адпраўцеля з самай ранняй датай, і калі яе выява была апублікавана ў прэсе, або ў кнізе.

На тэрыторыі Беларусі першыя выданні ілюстраваных паштовак пачалі з'яўляцца ў самым канцы XIX стагоддзя ў губернскіх і вялікіх гарадах– Мінску, Брэсце, Віцебску і Гродне прыкладна 1898 – 1899 г.г., дзе было больш насельніцтва, а таму гандаль і выданне паштовак мелі большы попыт. Але найбольшую папулярнасць і распаўсюджанасць паштоўкі атрымалі на пачатку XX стагоддзя, пасля таго як быў атрыманы дазвол прыватным выдаўцам друкаваць і прадаваць паштовыя карткі з выявамі гарадоў і мясцін не толькі ў Расейскай імперыі, але і ва ўсім свеце. Паштоўкі ў тыя часы можна было набыць у кнігарнях, газетных кіёсках і нават у галантарэйных і іншых крамах. Найперш яны пачалі выдавацца ў гарадах, дзе праходзіла чыгунка, дзе больш перамяшчалася людзей. Гэты тавар малога бізнесу карыстаўся попытам, таму што фатаграфія толькі пачынала сваё развіццё і не было такіх магчымасцяў з фатаздымкамі, як цяпер. Па-першае, фотаапараты з трыногай былі дарагімі і груваткімі, па-другое, каб рабіць здымкі горада ці іншай мясцовасці, патрэбны быў дазвол губернскай управы і мясцовай паліцыі.

Фотаздымкі на паштоўках адлюстроўвалі характэрныя мясціны – чыгуначны вакзал, рынак, культавыя будынкі і галоўныя вуліцы – тое, што мог адразу ўбачыць прыезджы чалавек у горадзе. Паштоўкі мелі на адным баку здымак, а на другім месца для адраса і для пісьма – гэта давала магчымасць пасылаць іх па пошце сваім блізкім і знаёмым у іншыя гарады і нават дзяржавы.

Старыя відавыя паштоўкі найперш каштоўныя тым, што сваімі фотаздымкамі нясуць нам візуальную інфармацыю аб мінулым гарадоў, мясцін і людзей, бо тады фотаальбомаў і кніг адпаведнай тэматыкі амаль не існавала. Выданне ілюстраваных паштовак звязана не толькі з іх выдаўцом, але найперш з фатографам. Менавіта ён сваім фотаапаратам зафіксаваў мінулае нашых гарадоў, мясцін і людзей, а выдаўцы паштовак іх друкавалі і праз свой бізнес распаўсюджвалі па ўсяму свету. Дзякуючы гэтаму ў прыватных архівах калекцыянераў і ў музеях розных дзяржаў на сённшні дзень захоўваюцца шматлікія артэфакты мінулага часу

Знайсці дакланую інфармацыю, колькі паштовых картак з відамі Ваўкавыска было надрукавана, асабліва самвыдатаўскіх, за дадзены перыяд немагчыма. Мэта аўтара гэтага каталога – як мага больш знайсці і змясціць у ім ваўкавыскіх паштовак і фотапаштовак, як афіцыйных, так і самвыдатаўскіх выданняў, уключыўшы ў яго зборы са сваёй калекцыі, а таксама зборы з музеяў, бібліятэк і прыватных калекцый. Менавіта такі агульны збор каталога зможа найбольш раскрыць візуальныя старонкі горада мінулых часоў, а філакартыстаў-даследчыкаў падштурхне да далейшых пошукаў невыяўленых аўтарам ваўкавыскіх паштовак. На жаль, вельмі складана сабраць сёння ўсе выявы паштовак Ваўкавыска, каб каталог вызначаўся сваёй паўнатой. Таму што надзвычай цяжка працаваць з некаторымі калекцыянерамі прыватных збораў. Бо тут спрацоўвае чалавечы фактар, характары людзей і сваё разуменне патрэбнасці і вартасці агульнага каталога ваўкавыскай паштоўкі, а таксама канкурэнтнасць першынства, якая часта існуе ў калекцыянераў. У цяперашні час не толькі ў кніжных выданнях, але і на інтэрнэтпрасторы можна знайсці здымкі паштовак Ваўкавыска часу Расейскай імперыі, а таксама фотапаштоўкі міжваеннага перыяду. Аднак, па міжнароднаму аўтарскаму праву выкарыстоўваць іхнія выявы для сваіх публікацый без дазволу гаспадароў - забаронена. Таму аўтар у сваім каталозе выкарыстаў толькі паштоўкі прысланыя ўладальнікамі і дазволеныя для публікацыі.




1). Першая неілюстраваная паштоўка Расейскай Імперыі.1872 г.




1a). Адваротны бок паштоўкі



1). Неілюстраваная паштоўка Расейскай імперыі 1893 г.




2a). Адваротны бок паштоўкі




3). Першая рыжская і першая ілюстраваная паштоўка ў Расейскай імперыі




3а). Адваротны бок паштоўкі. Прайшла пошту 16.12.1893 г.

## Ваўкавыскія паштоўкі

Старыя ваўкавыскія паштоўкі, якія дайшлі да нашага часу – гэта візуальныя старонкі гісторыі горада. Праз павятовы горад Ваўкавыск Гродзенскай губерні ў канцы XIX і на пачатку XX стагоддзя праходзіла чыгунка, якая звязвала Расейскую імперыю з Еўропай, меліся два чыгуначныя вакзалы. Гэта давала добрую магчымасць развіццю горада, а таксама падштурхнула дробных гандляроў да выдання і продажу ваўкавыскіх відавых паштовак. У тыя гады ў кнігарнях Ваўкавыска, ў газетных кіёсках, на чыгуначных вакзалах людзі маглі набыць паштоўкі з выявамі горада і адправіць па пошце вестачку з дарогі сваім блізкім ці сябрам.

Дакладна вызначыць, у якім годзе былі выдадзены першыя ваўкавыскія ілюстраваныя паштоўкі і які іх быў наклад, практычна немагчыма. У тыя часы інфармацыя аб гэтым нідзе не фіксавалася, а каталогаў з выявамі ваўкавыскіх паштовак выдаўцы не друкавалі. На паштоўках год іх выхаду выдавецтвы таксама не пазначалі, акрамя маскоўскага выдавецтва “Контрагенство А.С. Суворина и Ко”, якое друкавала кожны год, пачынаючы з 1914 г. і да 1917 года.

Звычайна калекцыянеры-даследчыкі год выдання першых паштовак вызначаюць па паштовым штэмпелі з датай на адваротным баку, у выпадку, калі яна прайшла пошту. Як вядома з гісторыі ілюстраваных паштовак, на тэрыторыі Расейскай імперыі іх найперш пачалі выдаваць у 1890-х гадах у вялікіх і губернскіх гарадах, дзе попыт на іх быў большы. У павятовых гарадах паштовыя карткі пачалі выдавацца крыху пазней - у першым дзесяцігоддзі мінулага стагоддзя.

Гісторыя расейскай пошты дае магчымасць даследчыкам паштовак вызначаць іх прыблізны час выдання. У канцы XIX і самым пачатку XX стагоддзя адрасны бок паштовых картак прызначаўся толькі для адраса і маркі, другі іх бок адводзіўся для пісьма. Але са з’яўленнем большага попыту да такога віду карэспандэнцыяў на баку для пісьма выдаўцы пачалі друкаваць паштоўкі, у якіх ілюстрацыя стала займаць больш прыярытэтнае месца. Аднак для пісьма заставалася зусім мала месца і часта карэспандэнты, пры напісанні пісьма, рабілі запісы на самым здымку. Тады Галоўнае ўпраўленне пошты і тэлеграфаў у 1904 годзе зрабіла пастанову, у сувязі з якой адрасны бок ілюстраваных паштовак быў раздзелены лініяй

на месцы для адраса і для пісьма, што не псавала ілюстрацыю, а на баку для пісьма выдаўцы пачалі друкаваць толькі ілюстрацыю. Такім чынам можна вызначыць, што калі бок паштоўкі раздзелены лініяй на месца для адраса і для пісьма, то яна надрукавана пасля 1904 года. А калі паштоўка на адрасным баку не была падзелена лініяй, то гэта выданне зроблена да 1904 года.

У сувязі з тым, што Расейская імперыя ў XIX ст. уваходзіла ў Сусветны паштовы саюз, на паштоўках, надрукаваных прыватнымі выдаўцамі з канца 1890-х гадоў і да 1904 г., надпісы друкаваліся толькі на расейскай і французскай мовах, а на іх адвароце павінны былі быць надпісы "Всемирный Почтовый Союз. Россия" і "Открытое письмо". Пасля 1904 г. на паштоўках, выдадзеных на тэрыторыі Беларусі (Заходняга краю), надпісы на іх пачалі друкавацца на расейскай і польскай мовах, з захаваным надпісам паштовага саюза на расейскай і французскай мовах на адрасным баку. Але ў хуткім часе некаторыя выдавецтвы пачалі друкаваць паштоўкі з надпісам "Открытое письмо – Pocztowka" без надпісу паштовага саюза. З 1 траўня 1909 г. на прыватных выданнях паштовак ў Расейскай імперыі замест надпіса "Открытое письмо", пачалі друкаваць надпіс "Почтовая карточка", хаця некаторы час выдавецтвы яшчэ друкавалі паштоўкі са старым надпісам.

## Фатаграфічныя салоны і фатографы г. Ваўкавыска

Выданне ілюстраваных відавых паштовак звязана, найперш, з фатаграфіяй і з фатографамі, таму прыгадаем, якія фатографы жылі і працавалі ў Ваўкавыску з канца XIX ст. і да 1939 года. Амаль на ўсіх ваўкавыскіх паштоўках не друкавалася інфармацыя пра аўтарства фатаграфіі, таму цяпер складана выявіць, з якімі фатографамі супрацоўнічалі выдаўцы ваўкавыскіх паштовак. Гарадскія фотасалоны ў сваім памяшканні рабілі партрэтныя здымкі гараджан, але нехта з мясцовых фатографаў мог выйсці на вуліцу і зрабіць для выдання паштовак здымкі горада па заказу выдаўцоў. Таму можна прыгадаць, якія фатаграфічныя атэлье працавалі ў горадзе за гэты перыяд; магчыма, гэта дапаможа філакартыстам- даследчыкам знайсці аўтараў фотаздымкаў на старых паштоўках.

Першым фатографам у Ваўкавыску быў Сраговіч, які ў 1880 г. атрымаў дазвол уладаў на адкрыццё свайго фотасалона. З 1881 г. у горадзе працавала фотаатэлье Казіміра Янушкевіча, а з 1894 г. - Франца Выбраноўскага. Найбольш вядомым і папулярным у Ваўкавыску, з 1894 г. і да 1930-х гадоў, быў фотасалон Якава (Янкеля) Мілера, які размяшчаўся на вуліцы Шырокай, 56, а таксама на вуліцы Касцюшкі, 61. Ён, як прафесійны фатограф, у пачатку XX стагоддзя ўдзельнічаў у розных фотавыставах, на трох з якіх ён атрымаў медалі, а таксама быў уганараваны высокай падзякай ад вялікага князя Расейскай імперыі Сяргея Міхайлавіча Раманава.

Пасля Якава Мілера самым вядомым, асабліва ў 1920-1930-х гадах, у горадзе быў фотасалон Міхеля Язерскага, што знаходзіўся на вуліцы Гродзенскай, 9а. У гэтыя гады на вул. Шырокай працавала фатаграфія Я. Язерскага, магчыма, нейкага родзіча Міхеля Язерскага. У фотасалонах Язерскіх рабілі здымкі, як партрэтныя, так і групавыя (сямейныя і вясельныя). У той час у горадзе меліся фотасалоны Т. Смазановіча (вул. Шырокая), І. Падароскага (вул. Касцюшкі), Х. Гжыбоўскага (вул. Ксцюшкі) і інш. Толькі, на вялікі жаль, паштовак, ці фотаздымкаў з выявамі горада згаданых ваўкавыскіх фатографаў адшукаць пакуль не ўдалося.

Акрамя прафесіяналаў, у Ваўкавыску былі і фатографы-аматары, у асноўным у 1920 – 1930-х гадах, якія ўжо мелі больш магчымасцяў выходзіць з фотаапаратам з памяшкання і фатаграфаваць горад. Вядома, што ў 1930-х гадах у горадзе працавала аддзялене "Польскага краязнаўчага таварыства ў Ваўкавыску" і пры ім была фатаграфічная секцыя, якая праводзіла выставы і фотаконкурсы фатографаў-аматараў. Не выключана, што па фотаздымках як прафесіяналаў, так і аматараў маглі друкавацца ваўкавыскія паштоўкі як у пачатку XX стагоддзя, так і ў міжваенны час. На вялікі жаль, з-за адсутнасці імёнаў на адваротных баках паштовак сёння практычна нікому з тых фатографаў немагчыма сказаць "дзякуй" за іх

візуальнае ўзнаўленне нашага горада ў мінулыя часы. Пакуль што вядома імя толькі аднаго фатографа, які рабіў здымкі Ваўкавыска ў міжваенны час, па якіх былі выдадзены паштоўкі з выявамі горада і каму можна дзякаваць – гэта вядомая фотамастачка з Піншчыны Зафія Хамятоўская.

## Каталог. Выдавецтвы ваўкавыскіх паштовак

## Выдавецтва “Изд. Т-ства “К.П.”

Паштоўкі з відамі Ваўкавыска ў пачатку XX стагоддзя да 1917 года выдавала выдавецтва “Изд. Т-ства “К.П.”, (Издательство Товарищества “Контрагент печати” в Москве). Трохі пазней яно пачало выдаваць паштоўкі пад назвай фірмы “Изд. Контрагенство А.С. Суворина и Ко”. Гэта гандлёвая фірма, заснаваная ў пачатку XX стагоддзя ў Маскве, выдавала відавыя паштоўкі многіх гарадоў Расейскай імперыі, у тым ліку і ў гарадах Беларусі, дзе меліся чыгуначныя станцыі. Бо менавіта там стаялі газетныя кіёскі фірмы, дзе разам з газетамі прадаваліся і паштоўкі выдавецтва.

У Ваўкавыску, на Цэнтральнай чыгуначнай станцыі, таксама меўся газетны кіёск гандлёвай фірмы “Т-ства “К.П.”, дзе можна было набыць паштоўкі з выявамі горада. Дакладна невядома, у якім годзе выдавецтва пачало выдаваць выўкавыскія паштоўкі. У калекцыі аўтара захавалася самая старая паштовая картка з выявай вакзала, на адрасным баку якой стаіць дата: 11.6.1910. Напісаная яна была адправіцелем пісьма чарніламі, на ёй знаходзіцца паштовы штэмпель з датай 14.6.1910 горада Феліна (Эстонія, цяпер г. Вільяндзі), куды прыйшла паштоўка. Яе можна лічыць першым выданнем ваўкавыскіх паштовак. Аднак, магчыма, што ваўкавыскія паштоўкі маглі выходзіць і раней.

Выдавецтва надрукавала серыю паштовак з выявамі горада. Усе паштоўкі на ілюстрацыі побач з назвай сюжэта мелі парадкавую нумарацыю. У ніжнім правым або левым вугле ілюстрацыі быў чуць бачны дробны надпіс – кірылічнай літары В з чатырохзначнай лічбай. Літара В азначае Ваўкавыск, а чатырохзначная лічба гэта нумар напісаны на негатыве фатографам асадкай. Тысячны нумар негатыва ваўкавыскіх паштовак гаворыць аб тым, што ў гэту нумарацыю ўваходзілі негатывы не толькі ваўкавыскіх паштовак, а і іншых гарадоў гэтага выдавецтва. Апошняя лічба ў нумары адносілася да выданых ваўкавыскіх паштовак. Па парадкавай нумарацыі негатываў на паштоўках B1253 – B1259 можна вызначыць, што было выдадзена не меньш 7 паштовых картак гэтай серыі. Друкаваліся яны на белай і якаснай паперы, з чырвонымі надпісамі на расейскай мове на баку ілюстрацыі і зялёным надпісам на адрасным баку. Надпіс “Открытое письмо” быў на расейскай і французскай мовах.



4). 1. B1253. Цэнтральны чыгуначны вакзал




4а). B1253. Адваротны бок паштоўкі. Прайшла пошту 14.06.1910 г.




5). 2. B1254. Цэнтральны чыгуначны вакзал




6). 3. B1255. Алея ў маёнтку Патрашоўцы




7). 4. B1256. Шырокая вуліца




8). 5. B1257. Рака Рось




9). 6. B1258. Вяршыня Шведскай магілы




10). 7a. B1259. Бульварная вуліца

## Выдавецтва "Изд. контрагенства А.С. Суворина и Ко"

З 1911 г. выдавецтва "Изд.Т-ства "К.П." змяніла назву і з 1912 г. пачало выдаваць паштоўкі розных гарадоў Расейскай імперыі пад назвай "Изд. контрагенства А.С. Суворина и Ко". Гэта адна і тая ж маскоўская гандлёвая фірма, толькі замест слова "контрагент" уведзена слова "контрагенство", а таксама дапісана прозвішча Аляксандр Сяргеевіча Суворына – расейскага журналіста, пісьменніка і выдаўца газеты "Новое время". Ён быў адным з заснавальнікаў гэтай гандлёвай фірмы, якая трымала газетныя кіёскі на чыгуначных станцыях, дзе разам з газетамі прадавала паштоўкі свайго выдавецтва, у тым ліку і ў Ваўкавыску.

Гэта маскоўскае выданне ваўкавыскіх паштовак прыпадае на час Першай сусветнай вайны. У 1914, 1915, 1916 і 1917 гадах яно выдала серыю паштовак горада Ваўкавыска, штогод паўтараючы тыя ж самыя здымкі горада. На ілюстрацыйным баку друкавалася нумарацыя паштоўкі, а на адрасным – год выдання. Гэта адзінае выдавецтва ваўкавыскіх паштовак, па якіх мы можам дакладна ведаць год іх выдання. Аднак надрукаваны год на

паштоўках не азначае час, калі фатограф здымаў ваўкавыскія мясціны. На адвароце паштовак быў надпіс “ПОЧТОВАЯ КАРТОЧКА” па-расейску, а пад ім на французскай мове “CARTE POSTALE”. У рамачцы для маркі, на паштоўках за 1914, 1915 і 1916 гады стаяла цана паштоўкі 5 к. (капеек). З 1916 года цана іх павялічылася на 1 капейку. Таму, пачынаючы з гэтага года, на паштоўках друкавалася Ц. 6 к.. Шрыфт надпісаў на ўсіх выданнях паштовак не мяняўся. У першым выданні 1915 года, у нумарацыі паштовак побач з лічбай друкаваўся знак №. У выданнях іншых гадоў нумарацыя на паштоўках друкавалася без гэтага знака. Усе паштовыя карткі друкаваліся па негатывах паштовак таварыства “К.П.”, таму здымкі горада фатограф рабіў ужо ў 1910 г., калі не раней. Ваўкавыскія паштоўкі гэта выдавецтва друкавала ў Маскве, у вядомай расейскай друкарскай фірме “Фототипия Шерер, Набгольц и Ко. Москва”; аб гэтым гаворыць надпіс на адрасным баку гэтага выдання. Хоць няма інфармацыі пра імя фатографа ваўкавыскіх паштовак гэтага выдавецтва, але можна меркаваць, што фатограф з фірмы “Фототипия Шерер, Набгольц и Ко” прыязджаў з Масквы ў Ваўкавыск і рабіў здымкі горада па заказу “Таварыства “К.П.” у 1909 г. ці 1910 годзе. Паштоўкі “Изд. Контрагенства А.С. Суворина и Ко” былі не вельмі якаснымі, друкаваліся на карычнявата-цямнаватай паперы; на гэта паўплываў эканамічны стан дзяржавы падчас Першай сусветнай вайны.



11). № 5. Рака Рось.1915 г.




11а). № 5. Адваротны бок паштоўкі. 1915 г.



12). 1. Цэнтральны чыгуначны вакзал. 1916 г.




12а).1. Адваротны бок паштоўкі. 1916 г.



13). 2. Чыгуначны вакзал. 1916 г.



14). 3. Алея ў маёнтку Патрашоўцы. 1917 г.



15). 4. Шырокая вуліца. 1917 г.



15а). 4. Адваротны бок паштоўкі. 1917 г.


16). 5. Рака Рось. 1916 г.


17). 6. Вяршыня Шведскай гары. 1917 г.



18). 7. Бульварная вуліца. 1916 г.

## Выдавецтва "Издание М. Ручика, Волковыск"

Першым мясцовым выдаўцом ваўкавыскіх паштовак можна лічыць уладальніка кнігарні Моўшу Ручыка, які заснаваў у 1910 годзе выдавецтва "Издание М. Ручика, Волковыск", і займаўся продажам паштовак. Выдавецтва па адных і тых жа негатывах выдала два выданні з відамі горада. На ілюстрацыйным баку першага выдання, больш ранняга, друкаваўся нумар паштоўкі і тэкст сюжэта на расейскай і польскай мовах. Адварот паштовак быў падзелены на месца для адраса і пісьма з надпісам на расейскай і французскай мовах "Всемирный почтовый союз. Россия". Гэты надпіс пачаў друкавацца на паштоўках у 1894 г. з дазволам прыватным выдаўцам друкаваць паштоўкі, ён друкаваўся на некаторых выданнях амаль да пачатку XX стагоддзя. Такія адкрытыя пісьмы можна было пасылаць і ў іншыя дзяржавы. "Почтовая карточка" на расейскай і французскай мовах, справа надрукавана рамачка для маркі, злева па вертыкалі надпіс выдання на расейскай і польскай мовах. Усяго аўтарам выяўлены паштоўкі выдавецтва М. Ручыка з 1 і да 9 нумара. Самая раньняя паштоўка першай серыі прайшла пошту з датай штэмпеля – 28.12.1911 года. Знойдзены паштоўкі гэтага выдання, якія прайшлі пошту ў 1912 і 1913 гадах. Ці былі ім выдадзены паштоўкі раней, у год адкрыцця кнігарні, пакуль што невядома.

Паштоўкі другога выдання друкаваліся на расейскай і польскай мовах, адварот паштовак быў падзелены на месца для адраса і пісьма і меў надпіс “Открытое письмо - Pocztuwka”. У гэтай серыі не было надпісу паштоваго саюза, што сведчыць аб пазнейшым яго выданні. На кожнай паштоўцы, у левым або правым ніжнім вуглу на ілюстрацыі быў змешчаны малюнак круга з галавой Апалона і трыма літарамі “К.А.В.”; магчыма, гэта фірменны знак (лагатып) фотасалона партрэтнай фатаграфіі, які рабіў здымкі для паштовак. Літары “К.А.”, магчыма, азначаюць ініцыялы фатографа, а літара “В.” азначае Ваўкавыск. Інфармацыю пра знаходжанне фотасалона ці іншай гандлёвай фірмы з назвай “Апалон” у Ваўкавыску таго часу не ўдалося знайсці. Хто хаваецца за ініцыяламі “К.А.”, таксама невядома; магчыма, гэту загадку з цягам часу філакартыстам-даследчыкам удасца разгадаць. Дзе друкаваліся паштоўкі мясцовых выдаўцоў у пачатку XX ст., таксама дакладна невядома. Не выключаю, што паштоўкі друкаваліся ў друкарні Янкеля Хаіма Майзэля, якая была адкрыта ў Ваўкавыску з 1897 года і працавала да пачатку XX стагоддзя.




1. Лагатып на паштоўках другой серыі выдання М. Ручыка

## Першае выданне М. Ручыка




19). №1. Ваўкавыск. Від гімназіі з моста



19а). №1. Адваротны бок паштоўкі. Прайшла пошту 28 снежня 1911 г.




20). №2. Ваўкавыск. Дваранская вуліца




21). №4. Ваўкавыск. Аляксандраўская вуліца




22). №5. Ваўкавыск. Касёльная вуліца




23). №6. Ваўкавыск. Базарная вуліца

## Другое выданне М. Ручыка




24). №2. Ваўкавыск. Дваранская вуліца




24а). №2. Адваротны бок паштоўкі




25). №4. Ваўкавыск. Аляксандраўская вуліца




26). №7. Ваўкавыск. Жаночая гімназія




27). №9. Ваўкавыск. Від на касцёл




27а). №9. Адваротны бок паштоўкі.

## Выдавецтва “Издание Л. Вейсенберга, Волковыск”

Выдавецтва Л. Вейсенберга было другім мясцовым выдавецтвам ваўкавыскіх паштовак. Яно выдала адну серыю паштовак па тых жа самых негатывах здымкаў, што і выдавецтва М. Ручыка. Хто такі быў Л. Вейсенберг – кнігагандляр ці фатограф - інфармацыі не знойдзена. Калі ён быў фатографам, то мог па сваіх здымках сам выдаваць паштоўкі і прадаваць у сваім фотаатэлье, або супрацоўнічаць з кнігарняй М. Ручыка і прадаваць яму здымкі для выдання паштовак. Такая практыка супрацоўніцтва, як вядома з гісторыі выдання паштовак таго часу, практыкавалася.

На ілюстрацыйным баку паштовак Л. Вейсенберга надпісы сюжэта на расейскай і польскай мовах. На адваротным баку надпіс сусветнага паштовага саюза на расейскай і французскай мовах, з падзеленай лініяй на месца для адраса і для пісьма. З левага боку па вертыкалі друкаваўся надпіс “Издание Л. Вейсенберга, Волковыск”. У ніжнім правым вугле паштоўкі маецца двайны нумар паштоўкі. Першы нумар трохзачны – 649, даецца на ўсіх паштоўках; магчыма, гэта нумар заказу ў друкарні, бо ён ёсць на ўсіх паштоўках. Побач другі нумар – двухзачны, і ён мяняецца з кожнай паштоўкай; гэта нумары ваўкавыскіх паштовак, але ён пачынаецца не з 1, а з двухзачнай лічбы. Аўтарам знойдзена шэсць паштовак выдання з нумарамі 649/17, 649/18, 649/19, 649/20, 649/21, 649/22. Першых нумароў з 1 да 17 лічбы другой часткі я не маю. Магчыма, двузначныя лічбы – гэта агульныя нумары негатываў фотаздымкаў фатографа, у якіх першыя лічбы нумарацыі адносіліся да негатываў фотаздымкаў іншага горада, а двухзначныя лічбы прыпалі на ваўкавыскія негатывы. Не магла быць серыя з 22 паштовак пра Ваўкавыск, бо выдавецтвы толькі такіх вялікіх гарадоў як Мінск, Гродна і інш., выдавалі паштоўкі вялікімі серыямі, дзе тавар можна было хутчэй прадаць.

Так як выданні М. Ручыка і Л. Вейсенберга друкаваліся па адных і тых жа негатывах, то агульная колькасць выяўленых абодвух выданняў складае 9 паштовак і не даходзіць да двухзначнай лічбы 22. Дакладна невядома, у якім годзе выдавецтва Л. Вейсенберга выпусціла паштоўкі, хоць па надпісе на паштовых картках відаць, што абодва выдавецтвы займаліся гэтым ў першым дзесяцігоддзі XX ст.. Аднак не выяўленыя паштоўкі выдання Л. Вейсенберга з зафіксаванай датай да 1913 года. Толькі па адной знойдзенай паштоўцы выдання Л. Вейсенберга, якая прайшла пошту 21.9.1914 г., можна лічыць, што яна была выдадзена пазней за выданне М. Ручыка. Раней у 1903 – 1904 гг., калі яшчэ не было выдаўцоў паштовак М. Ручыка і Вейсенберга, ў Ваўкавыску на Рынкавай вуліцы меліся кнігарні І. М. Вельвелевіча і Ю. П. Гурвіча, якія таксама гандлявалі ваўкавыскімі паштоўкамі. На жаль, паштовак з прозвішчамі гэтых кнігагандляроў не выяўлена.



28). 649/17. Аляксандраўская вуліца



28а). 649/17. Адваротны бок паштоўкі




29). 649/18. Дваранская вуліца




30). 649/19. Базарная вуліца




31). 649/20. Від на гімназію з моста




32). 649/21. Касцёльная вуліца




33). 649/22. Вакзальная вуліца

## Выдавецтва “Verlag Alexander Pfeiffer, Berlin O. 112. Mirbachstr. 69.“

Вядома сем ваўкавыскіх паштовак, выданых берлінскім выдавецтвам Аляксандра Пфэйфера падчас Першай сусветнай вайны. Надпісы на іх былі на нямецкай мове. Адварот паштоўкі на месцы для адраса і пісьма падзяляла вертыкальная лінія, з левага боку па вертыкалі была надрукавана назва выдавецтва і яго адрас. На чатырох паштоўках, няма адраса выдавецтва (Verlag Alexander Pfeiffer, Berlin O. 112). Тры паштоўкі гэтага выдання прайшлі пошту і маюць самую раннюю дату на штэмпелі 30.11.1915 г.; 7.12.1915 г.. Па іх можна вызначыць, што выдавецтва пачало друкаваць ваўкавыскія паштоўкі ў 1915 г.- у час акупацыі Ваўкавыска.

На трох паштоўках гэтага выдавецтва, што з выявамі вакзала і салдацкімі могілкамі даецца назва вуліцы і нумар дома (Verlag Alexander Pfeiffer, Berlin O. 112. Mirbachstr. 69). Дзве паштоўкі прайшлі пошту і маюць дату 22.10.1916 і 6.7.1917, на штэмпелі трэцяй паштоўкі дата не выразная. Верагодна, не ўсе паштоўкі Ваўкавыска, друкаваліся ў адзін год. Тры апошнія, магчыма, былі выдадзены пазней і адносяцца да другогой серыі.

Усе выданні Аляксандра Пфэйфера па сваіх сюжэтах цікавыя і адрозніваюцца ад паштовак ранейшых выдаўцоў. Толькі дзве выявы – Цэнтральнага вакзала і вуліцы Вакзальнай з відам на Мікалаеўскую царкву, былі таксама зафатаграфаваны амаль з аднаго і таго ракурса, што і на паштоўках выдавецтваў “К.П.” і “Контрагенства А.С. Суворина и Ко”. Паштоўкі Пфэйфера – гэта не паўторы здымкаў па адных і тых жа негатывах. Аб гэтым гавораць многія дэталі на сюжэтах: напрыклад, на паштоўцы з відам на вакзал, злева на пярэднім плане ля чыгункі ёсць абгароджаная магіла, а ля яе стаіць нямецкі салдат.
Пра выдаўца Аляксандра Пфэйфера, на жаль, няма інфармацыі. Знойдзена адна паштоўка гэтага выдавецтва з выявый разбуранай вуліцы Брэста, якая прайшла пошту 9.9.1916 года. Адваротны бок яе такі ж самы, як і на паштоўках Ваўкавыска другога выдання. Магчыма, ён у 1915 г. спачатку наведаў Брэст, потым прыехаў і зафатаграфаваў Ваўкавыск, а ў 1916 г. выдаў у Берліне гэтыя паштоўкі. А магчыма гэта выдавецтва выдала паштоўкі яшчэ іншых гарадоў – пакуль што невядома. Будзем працягваць пошук.

## Першае выданне выдавецтва “Verlag Alexander Pfeiffer, Berlin O. 112.”.




34).Ваўкавыск Рынычная плошча




34a). Адваротны бок паштоўкі.
Прайшла пошту 30.11.1915 г.




35). Ваўкавыск. Агульны від




36). Ваўкавыск




37). Ваўкавыск. Палац

## Другое выданне выдавецтва Verlag Alexander Pfeiffer, Berlin O. 112. Mirbachstr. 69




38). Ваўкавыск. Цэнтральны вакзал



38а). Адваротны бок паштоўкі.
Прайшла пошту 6.7.1917 г.




39). Ваўкавыск.Цэнтральны вакзал




40). Ваўкавыск. Салдацкія могілкі

## Выдавецтва "Georg Stilke, Ferlagsbuchhandlumg, Berlin NW. 7"

Выдавецтва паштовак Георга Стілке было адным з вядомых і ранніх у Германіі. Яшчэ ў 1890-х гадах яно друкавала паштоўкі з выявамі Берліна і іншых месцаў Нямеччыны. Выдавецкая і кнігагандлёвая фірма Георга Стілке ў Берліне, падчас Першай сусветнай вайны, з 1914 г. і да 1918 г., стала адной з самых буйнейшых у тагачаснай Еўропе. Вядома, што там выдаваліся паштоўкі з выявамі беларускіх гарадоў: Баранавічаў, Ліды, Гродна, Мінска, Пінска і Ваўкавыска.

Мною знойдзены 6 паштовак Ваўкавыска гэтага выдавецтва, па якіх можна меркаваць, што было надрукавана тры серыі. Звычайна, выдавецтвы паштовак, пры новым выданні, імкнуліся, каб кожны выпуск не паўтараў кампазіцыю афармлення адваротнага боку паштовай карткі. Таму мяняўся шрыфт, яго памеры на ілюстрацый і на іх адвароце і нават папера на якой друкавалася новае выданне. Некаторую розніцу можна бачыць і на ваўкавыскіх паштоўках гэтага выдавецтва.

У першым выданні на ілюстрацыі тэкст сюжэта здымка быў на друкаваны наклонным шрыфтам, адрасны бок падзяляў вертыкальны надпіс друкарскім прамым шрыфтам "Georg Stilke, Ferlagsbuchhandlumg, Berlin NW. 7", ў версе над тэкстам друкаваўся лагатып фірмы паперы з выявай пятуха і літараў "КСВ" у ромбіку. Паштоўкі былі выдадзены на якаснай мелаванай белай паперы. Пакуль, што вядомы чатыры ваўкавыскія паштовыя карткі гэтага выдання.

На адной паштоўцы другога выдання, тэкст на ілюстрацыі надрукаваны прамым друкарскім шрыфтам. Адварот паштоўкі падзяляла вертыкальная лінія, а ў сярэдзіне на яе разрыве размяшчаўся тэкст Georg Stilke, Berlin NW, 7. У правым верхнім вугле паштоўкі надрукавана рамачка для маркі і 4 лініі для адраса. Пакуль невядома колькі паштовак было

надрукавана з гэтай серыі.

Верагодна, што пад канец вайны выдавецтва Георга Стілке выдала трэцяе выданне ваўкавыскіх паштовак, знойдзена толькі адна з гэтай серыі, надрукаваная па негатыве першага, з выявай разбуранага гарадскога вакзала, з машынай і нямецкім шафёрам ля будынка. Паштоўка адрозніваецца ад папярэдніх, сваёю якасцю выдання, бо надрукаваная на карычневатай паперы, падобнай на тонкі кардон. Адварот паштоўкі раздзяляе такі ж вертыкальны тэкст, як і на паштоўках першага выдання, толькі над ім няма лагатыпа фірмы паперы, і без рамачкі для маркі. Паштоўка прайшла пошту 29.7.1918 года. На старонцы інтэрнэтаўкцыёна ў 2020 годзе была змешчана на продаж такая ж самая - з датай на паштовым штэмпелі 12.1.1918 года. Іншых паштовак гэтага выдання і з больш раннім годам не знойдзена. Гэта дае падставу меркаваць, што, магчыма, пад канец вайны, у 1917 г., выдалі толькі адну такую паштоўку, а на колькасць і на якасць другога выдання паўплываў эканамічны стан Германіі пад канец вайны.

Ваўкавыск быў акупаваны кайзераўскімі войскамі ў верасні 1915 года. Напэўна нямецкі ваенны фатограф, што рабіў здымкі для выдавецтва зафатаграфаваў акупаваны горад восенню 1915 г., або вясной 1916 г., бо заснятыя дрэвы стаяць ў лістоце і па-восеньску апранутыя людзі. Паштовыя штэмпелі дацірававаныя 9.4.1916 і 4.9.1916 г., і можна меркаваць, што яны былі выдадзены ў гэтым жа годзе, бо з ранейшай датай не знойдзены.

## Першае выданне выдавецтва "Georg Stilke, Ferlagsbuchhandlumg, Berlin NW. 7"




2. Лагатып паперы на паштоўках першага выдання выдавецтва Георга Стілке




41). Разбураны гарадскі вакзал у Ваўкавыску



41а). Адваротны бок паштоўкі




42). Царква ў Ваўкавыску



43). Сямейная крама ў Ваўкавыску



44). Вуліца ў Ваўкавыску

## Другое выданне выдавецтва “Georg Stilke, Berlin NW.7”




45). Гарадская школа




45а). Адваротны бок паштоўкі. Прайшла 9.4.1916 г.

## Трэцяе выданне выдавецтва “Georg Stilke, Berlin NW.7”




46). Разбураны гарадскі вакзал у Ваўкавыску




46а). Адваротны бок паштоўкі.
Прайшла пошту 12.1.1918 г.

## Паштоўкі невядомага нямецкага выдавецтва

У час Першай сусветнай вайны ў 1915 годзе быдi выдадзены паштоўкі са здымкамі прыезду ў Ваўкавыск нямецкага генерал-фельдмаршала, прынца Баварскага Леапольда. Выяўлена тры паштоўкі гэтага выдання. На жаль, на іх адсутнічае інфармацыя аб выдавецтве. Ва ўсіх трох адваротны бок адрозніваецца сваім афармленнем. На першай паштоўцы можна бачыць на пероне ля цягніка прынца Леапольда разам з сустракаючымі яго вайскоўцамі. На фоне неба зроблены надпіс на нямецкай мове, у якім гаворыцца аб сустрэчы ў Ваўкавыску генерал-фельдмаршала. Адваротны бок паштоўкі раздзелены лініяй для пісьма і адраса, з надпісамі “Absender і Feld – Postkarte”.

На другой паштоўцы прынц Баварскі Леапольд з камандваннем абходзіць строй нямецкага войска ля насыпу ваўкавыскай чыгункі. На фоне неба надпіс, які апавядае аб інспекцыі батальёна нямецкіх войск генерал-фельдмаршалам, прынцам Баварскім Леапольдам у Ваўкавыску 18.12.1915 года. Адварот паштоўкі падзелены лініяй на месца для пісьма і адраса з надпісам “Feldpostkarte”, надрукаваным адным словам, без працяжніка, які падзяляе яго на два словы так, як на першай паштоўцы. Тут маецца рамачка для маркі. Паштоўка праштампаваная 1.5.1916 г., а таксама стаіць штэмпель вайсковага лазарэта.

На трэцяй паштовай картцы прынц Баварскі Леапольд разам з камандваннем абыходзіць шарэнгу нямецкага войска ў Ваўкавыску. Фотаздымак на паштоўцы больш якасны і цікавы, бо на ёй можна добра пазнаць ваўкавыскі пейзаж – чыгунку і мост з дарогай, што вядзе ў раён цэнтральнай чыгуначнай станцыі. На адвароце паштоўкі надпісаў няма, лінія падзяляе паштоўку на две часткі, разлінеена месца для пісьма і рамачка для маркі. Можна меркаваць, што гэтыя тры выданні не аднаго выдавецтва. Для першых двух паштовак, магчыма, здымкі рабіў адзін фатограф і ў адзін час., а трэці здымак адрозневаецца, бо сфатаграфаваны з другога ракурсу – зверху; магчыма, фатограф здымаў з насыпу чыгункі.




47). Прыбыццё генерал-фельдмаршала, прынца. Леапольда фон Баўэра ў Ваўкавыск. 18.12.1915 г.




47а). Адваротны бок паштоўкі




48). Абыход немецкага войска генерал-фельдмаршалам, прынцам Леапольдам фон Баўэрам у Ваўкавыску, на фоне насыпу чыгункі. 18.12.15 г.




48а). Адваротны бок паштоўкі



49). Аыбход нямецкіх войскаў генерал-фельдмаршалам, прынцам Леапольдам фон Баўэрам у Ваўкавыску ля моста чыгункі

49а). Адваротны бок паштоўкі

## Паштоўкі выдання міжваеннага часу. 1920 – 1939 гады

У часы Расейскай імперыі паштоўкі з выявамі Ваўкавыска выдаваліся, як на расейскай, так і на польскай, а ў часы акупацыі кайзераўскай Германіяй - на нямецкай мовах. Падчас акупацыі Ваўкавыска Польшчай паштоўкі з відамі горада выходзілі толькі на польскай мове. Пакуль што вядомы два афіцыйныя польскія выдавецтвы, якія ў 1930-х гадах друкавалі паштоўкі з відамі горада. Гэта выдавецтвы кнігарняў: "Nakladen Ksegarni Spoldzielczej N. Sz. P, w Wolkowysku, Kosciuszki 57" і выдавецтва "Pollskiego Towaristwa Ksiegarni Kolejowei "Ruch".

Па ўспамінах вядомага ваўкавыскага гісторыка і краязнаўцы Мікалая Быхаўцава, яму даводзілася бачыць у свой час у аднаго калекцыянера паштоўку, якая была выдадзена краязнаўчым таварыствам горада Ваўкавыска. Аднак знайсці той фотаздымак, ці хоць бы адну з паштовак, згаданага таварыства не ўдалося.

## Выданне кнігарні "Nakladen Ksegarni Spoldzielczej N. Sz. P, w Wolkowysku"

Паштоўкі гэта выдавецтва друкаваліся на белай шчыльнай паперы. Афармленне кожнай паштоўкі ўяўляе калаж з сіметрычным размяшчэннем трох здымкаў у белых рамачках, павятовым і гарадскім гербамі. Фон паштовак паміж здымкамі і самі здымкі надрукаваны ў карычневым колеры. На чатырох паштовых картках можна ўбачыць адразу 12 розных відаў горада.

Даты выдання і колькасць выдадзеных паштовак не ўстаноўлена. Пакуль што знойдзены толькі чатыры паштоўкі, якія не прайшлі пошту, таму немагчыма вызначыць больш дакладны год іх выдання. Верагодней усяго дата іх выдання – 1930-я гады. На кожнай паштоўцы справа пад ніжэйшым здымкам на белым фоне маецца надпіс па-польску "Wikonal J. Taras" (Выканаў Я. Тарас). Гэта імя аўтара, які падрыхтаваў да выдання і зрабіў дызайн паштовак, ён жа магчыма быў і аўторам здымкаў. Дарэчы, гэтыя здымкі горада асобна друкаваліся ў нумарах газеце "Tigodnik Wolkowiski" у 1930 -х гадах. Адваротны бок паштовак белы, яго падзяляе надпіс "Klisze i druk wykonano w Drukarni sw. Wojciecha w Poznaniu". Маюцца тры лініі для адраса, у ніжняй частцы для пісьма надрукаваны надпіс "Nakladem Ksegarni Spoldzielczej N. Sz. P. w Wolkowysku, Kosciuszki 57", а злевага боку ёсць надпіс "Reprodukcija prawnie zastrze-zona".

Пошукі большай інфармацыі пра аўтара, і пра саму кнігарню, што выдала гэтую серыю паштовак, не далі добрых вынікаў. З надпісу на паштоўках вядома, што кнігарня знаходзілася на вул Касцюшкі, 57. Знойдзеныя паштоўкі, гавораць аб тым, што гэта было адзінае мясцовае выданне друкаваных відавых паштовак Ваўкавыска міжваеннага часу.




50). 1. Помнік Волі. 2. Дом часу Напалеона I. 3. Шведская гара




Nakładem Księgarni Spółdzielczej N. Sz. P. w Wołkowysku, Kościuszki 57.

50а). Адваротны бок паштоўкі




51). 1. Каператыўны мясаперапрацоўчы завод.
2. Вуліца Касцюшкі. Від на магістрат.
3. Замкавая вуліца




52). 1. Вуліца 3 Мая.
2. Вуліца Касцюшкі.
3. Аўтобусная станцыя




53). 1. 7-і класная пачатковая школа.
2. Дзяржаўная настаўніцкая жаночая семінарыя.
3. Дзяржаўная гімназія імя Стэфана Баторы

## Фотапаштоўкі выдавецтва "Pollskiego Towaristwa Ksiegarni Kolejowei "Ruch"

Фотапаштоўкі ў Еўропе з'явіліся яшчэ на пачатку XX стагоддзя, з выпускам фотапаперы з надрукаванымі на адваротным баку лініямі для адраса; іх рабілі самі фатографы. Фотапаштоўкі Ваўкавыска былі выдадзены на шчыльнай, якаснай паперы. Прыкладам здымкі прафесійнай фотамастачкі Зафіі Хамятоўскай маюць вартасць ў тым, што кожная з іх – гэта арыгінальная фатаграфія мінулай эпохі. Хоць гэтыя здымкі чорна-белыя, але яны жыва і дэтальна адлюстроўваюць час і мясціны Ваўкавыска. Фотапаштоўкі згаданага выдання, якія зроблены па здымках Зафіі Хамятоўскай, адрозніваюцца ад іншых паштовак Ваўкавыска міжваеннага часу кампазіцыяй сюжэту, якасцю здымкаў і нюансамі іх танальнасці. Выданне фотапаштовак з відамі Ваўкавыска, якія былі выпушчаныя выдавецтвам польскага таварыства чыгуначнай кнігарні "Ruch" (Рух) можна лічыць узорнымі для такога віда фотапрадукцыі.

Зафія Хамятоўская нарадзілася ў 1902 г. непадалёку ад Пінска, шмат здымкаў прысвяціла палешукам і свайму роднаму краю. З 1930-х гадоў яна стала жыла ў Варшаве, у 1947 г. пераехала ў Аргенціну, памерла ў 1991 г. у Буэнас-Айрасе, пакінуўшы багатую калекцыю фотанегатываў. Са сваімі фатаграфіямі З. Хамятоўская ўдзельнічала ў многіх фотаконкурсах і фотавыставах, дзе атрымоўвала прызы. Яна зрабіла шмат здымкаў палешукоў і гарадоў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, а таксама мясцін Польшчы. Рэгулярна супрацоўнічала з прэсай, а таксама з польскім таварыствам чыгуначнай кнігарні "Ruch".Таварыства, як і раней расейскае выдавецтва "Контрагентство А.С. Суворина и Ко", выдавала паштоўкі з выявамі гарадоў і прадавала іх у кнігарнях на чыгуначных станцыях.

Трэба сказаць, што выдавала яна фотапаштоўкі не толькі з відамі палешукоў і Палесся, але і з выявамі гарадоў Брэста, Гродна, Мастоў і інш.. У 1930-х гадах Хамятоўская наведала Ваўкавыск і па заказу выдавецтва "Ruch" зрабіла шмат фотаздымкаў для выдання паштовак. Мною знойдзена чатыры яе фотапаштоўкі, але не выключана, што было выдадзена болей. На польскім сайце віртуальнага музея фатаграфіі ёсць фотаздымак ваўкавыскага касцёла Святога Вацлава з боку ўваходнай брамы, зроблены З. Хамятоўскай. Магчыма, што фотамастачка падчас наведвання Ваўкавыска зафатаграфавала гарадскі і цэнтральны вакзалы горада, верагодна, што па тых фота былі выдадзены паштоўкі.

Згаданыя фотапаштоўкі маюць нумары В1931; В1932; В1934; В2041. На здымках злева размешчаны белы надпіс з назвай горада і сюжэта. Такога кшталту надпісы былі зроблены і на іншых фотапаштоўках Хамятоўскай, дзе былі адлюстраваныя выявы заходнебеларускіх гарадоў. Ваўкавыскія фотапаштоўкі маюць надпіс па вертыкалі – "Przedruk wzbroniony" ("Перадрук забаронены"), які дзеліць на месца для пісьма і з лініямі для адраса. Ніжэй тэксту, ля краю кожнай фотапаштоўкі, выдавецтва ставіла штамп з лагатыпам таварыства "Ruch" у крузе з літарай "R". На ваўкавыскіх выданнях літара "R" нахілена ўправа, на лагатыпе фотапаштовак іншых гарадоў літара ў крузе павернута ўлева, а пад кругам меўся надпіс "RUCH". Лагатым на паштоўках не друкаваўся, а штампам, відаць, ставіўся рукою, таму што адлегласць яго ад вертыкальнага надпісу не заўсёды на ўсіх картках аднолькавая і размешчана на ўзроўні з вертыкальнай лініяй. У правым верхнім вугле адраснага боку ставіўся штэмпель выдавецтва – у трохкутніку лічба 15 з надпісам "RUSH". Надпіс "Fot. Z. Chometowska" друкаваўся ў верхнім левым вугле месца для пісьма. На адвароце кожнай фотапаштоўкі меўся чатырохзначны нумар негатыва здымка з лацінскай літарай В. Апошнія дзве лічбы ў нумарацыі адносяцца да Ваўкавыскіх паштовак. Чатырохзначная лічба можа нагадваць пра год выдання або год фатаграфіі. Але паштоўка "Дом Напалеона", што з нумарам В2041, а таксама выданні фотапаштовак Брэста і Палесся з нумарамі В1815, 1894, абвяргаюць думку аб лічбах года. Больш верагодна, што нумарацыя на паштоўках паказвае агульную нумарацыю здымкаў негатываў на выданнях выдавецтва "Ruch" розных гарадоў, куды ўвайшлі і нумары горада Ваўкавыска.

У Варшаўскім Фондзе "Археалогія фатаграфіі" захоўваецца вялікая калекцыя здымкаў і негатываў Зафіі Хамятоўскай. У 2011 г. у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь адбылася выстава яе фатаграфій, арганізаваная музеем сумесна з фондам і Польскім інстытутам у Мінску. На польскім сайце, віртуальнага музея фатаграфіі ў калекцыі з Фонда "Археалогія фатаграфіі", аўтару ўдалося прагледзець 9474 фотаздымкаў З. Хамятоўскай. Здымкі, на жаль, не падпісаныя, толькі ёсць дата. У той калекцыі ёсць два здымкі Ваўкавыска - франтальны від на касцёл і здымак "Падчас кірмашу". Па апошнім выдадзена фотапаштоўка, якая даецца ў гэтым каталозе. Пакуль што не знойдзена фотапаштоўка, якая зроблена з тым фотаздымкам касцёла. Пад абодвума здымкамі стаіць дата 1930 год. Гэта падцвярджае тое, што З. Хамятоўская наведала Ваўкавыск менавіта ў гэтым годзе і зрабіла здымкі горада. У прагледжанай калекцыі няма здымкаў, што адлюстраваны на астатніх трох фотапаштоўках.



3. Лагатып штампа выдавецтва польскага таварыства чыгуначнай кнігарні “Ruch” на ваўкавыскіх фотапаштоўках




54). B1931. Падчас кірмашу




54a). B1931. Адваротны бок фотапаштоўкі




55). B1932. Шведская гара




56). B1934. Панарама Ваўкавыска



57). B2041. Дом Напалеона




57а). B2041. Адваротны бок фотапаштоўкі.
Прайшла пошту 17.3.1939 г.

## Самвыдатаўскія фотапаштоўкі Ваўкавыска

У 1920-х, а найбольш у 1930-х гадах з'явіліся фотаапараты невялікага фармату, цана іх стала больш даступнай і гэта паспрыяла з'яўленню фатографаў-аматараў. З'явілася цікавасць да фатаграфіі, як сродку візуальнай фіксацыі свайго часу. Фотаздымкі з выявамі горада не патрэбна было несці ў друкарню, каб на іх надрукаваць назвы знятых сюжэтаў; фатограф пяром, або тонкім пэндзлікам рабіў надпісы на негатывах і пасля праяўлення і фіксажу на здымку з'яўляўся надпіс сюжэта. А каб іх паслаць па пошце, можна было купіць фотапаперу з надрукаванымі ўжо лініямі для адраса і для пісьма. Такім чынам, фатографы сталі выдаўцамі фотапаштовак і маглі аддаваць іх на продаж у кнігарні і газетныя кіёскі горада, дзе можна было іх набыць. Такія паштоўкі можна назваць  самвыдатаўскімі. Так хутка і танна можна было зрабіць відавую фотапаштоўку. Нажаль, яны не заўсёды былі якасныя ў параўнанні з тымі, што друкавалі выдавецтвы ў друкарні па здымках фатографаў-прафесіяналаў, з надрукаванымі надпісамі сюжэта і назвай выдавецтва.

Адвароты бок фотапаперы, якую выпускалі ў той час розныя вытворцы, меў сваё адрозненне. Для друкавання на іх здымкаў фатографы карысталіся паперай розных фірмаў. У 1920-х – 1930-х гадах вядома, што ў Ваўкавыску друкавалі фатаграфіі і фотапаштоўкі на фотапаперы фірмаў: "Kodak", "Satrap" і "LEONAR". Былі фотапаштоўкі і з надрукаванымі ўнізе, пад вертыкальнай лініяй, літарамі "S", "P",  са знакам параграфа §, а таксама з лагатыпам  чалавечага твару ў крузе – сімвалам сонца, толькі без промняў вакол круга. Меліся і такія, што пад вертыкальнай лініяй быў толькі лагатып  твару без літары. Аўтару не ўдалося вызначыць назвы фірмаў вытворцаў фотапаперы з такой маркіроўкай.

## Фотапаштоўкі на фотапаперы фірмы "Satrap"

Вядома пакуль што 5 фотапаштовак з відамі Ваўкавыска, надрукаваных на фотапаперы германскай вытворчай фірмы "Satrap" - яны без надпісу сюжэта здымка. Адваротны бок падзяляла вертыкальная лінія, а ўнізе пад ёю размяшчаўся надпіс "Satrap". На адрасным баку меліся 4 гарызантальныя лініі, а ў рамачцы для паштовай маркі фірма друкавала свой лагатып – партрэт кіраўніка старажытнай Персіі Сатрапа.



4. Лагатып фірмы фотапаперы "Satrap"



58). Вуліца Замкавая.



58а). Адваротны бок фотапаштоўкі



59). Гандлёвыя рады



60). Будынак старaства



61). Вуліца Замкавая.



62). Царква Пятра і Паўла

## Фотапаштоўкі на паперы фірмы *"LEONAR"*

Яшчэ ваўкавыскія фотапаштоўкі ў міжваенны час друкаваліся на фотапаперы вытворчасці германскай фірмы *"LEONAR"*. Адваротны бок паштовак падзяляла вертыкальная лінія; пасярэдзіне, паміж разарванай лініяй, размяшчаўся надпіс *LEONAR* і лічба 243, а на адрасным баку меліся лініі для напісання адраса. На ёй таксама адсутнічае надпіс сюжэта. Знойдзена пакуль што толькі дзве фотапаштоўкі, надрукаваныя на такой паперы. Магчыма, што іх было зроблена намнога больш.

***LEONAR***

5. Лагатып фірмы фотапаперы



63). Вуліца Касцюшкі каля Рынкавых радоў



63а). Адваротны бок фотапаштоўкі



64). Вуліца Шырокая



64а). Адваротны бок фотапаштоўкі

## Фотапаштоўкі на паперы маркі “Kodak”

Ваўкавыскія фатографы для друкавання фотапаштовак у 1930-х гадах карысталіся і фотапаперай амерыканскай кампаніі, па вытворчасці фотаматэрыялаў Eastman Kodak, заснаваная яшчэ ў канцы XIX стагоддзя, якая дажыла і да сённяшняга дня. Лагатып кампаніі як і фірмы Leonar друкаваўся пасярэдзіне лініі , што дзяліла паштоўку на адрасны і пісьмовы бок. Пакуль што выяўлена толькі адна ваўкавыская фотапаштоўка на паперы гэтай фірмы з вельмі якасным здымкам касцела.




6. Лагатып фірмы фотапаперы “Kodak”



65). Касцёл.




65а). Адваротны бок фотапаштоўкі

## Самвыдатаўскія фотапаштоўкі з надпісамі і без надпісаў на здымку

У каталог увайшлі здымкі 7 фотапаштовак з надпісамі назвы сюжэта на фотаздымку, надрукаваныя на фотапаперы з рознай маркіроўкай на адваротным баку. Гэта паштоўкі з надрукаванымі пад вертыкальнай лініяй: з лагатыпам чалавечага твару з літарай "Р"; з лагатыпам без літары; без лагатыпа з літарай "S"; фотапаштоўкі без маркіроўкі паперы.

Іх у 1930-х гадах мясцовымі фатографамі-аматарамі было зроблена даволі шмат; яны захаваліся ў сямейных фотаархівах і ў калекцыянераў даўніны. Такія картачкі можна ўбачыць на выданнях кніг пра Ваўкавыск і ў інтэрнэце, але, на жаль, атрымаць усе іх здымкі для агульнага каталога аўтару не ўдалося.

У каталог увайшла фотапаштоўка са здымкам цэментнага завода "Высока" з надпісам Ваўкавыск - ён знаходзіўся ў 12 км. ад горада, побач з вёскай Краснае Сяло. Тыраж гэтай паштоўкі быў масавы. Здымак паштоўкі, што ў каталозе, узяты са збору аўтара, але такую ж выяву фотапаштоўкі можна было бачыць і на старонках інтэрнэтсайтаў; гэта пацвярджае, што фотапаштоўкі друкаваліся не ў адным экзэмпляры.




7. Лагатып фірмы фотапаперы з тварам і лацінскай літарай Р



66). Цэнтральны чыгуначны вакзал




66а). Адварот фотапаштоўкі з лагатыпам без літары




67). Касцёл парафіі Св. Вацлава




67а). Адварот фотапаштоўкі з літарай "S"




68). Шведская гара




68а). Адварот фотапаштоўкі з лагатыпам і з літарай “Р”




69). Царква




69а). Адварот фотапаштоўкі з лагатыпам і з літарай “Р”




70). Дзяржаўная гімназія




70а). Адварот фотапаштоўкі з лагатыпам і з літарай “Р”




71). Вайсковыя могілкі




71а). Адварот фотапаштоўкі без знака маркіроўкі паперы



72). Вуліца 3-га Мая



72а). Адварот фотапаштоўкі з лагатыпам



73). Вуліца Касцюшкі



73а). Адварот фотапаштоўкі з з лагатыпам
і літарай "Р"




74). Вуліца 3-га Мая



74а). Адварот фотапаштоўкі з лагатыпам



75). Цэментная фабрыка "Высока"




75а). Адварот фотапаштоўкі з лагатыпам
і з літарай "Р"

## Крыніцы:

1. Н. Быховцев. Волковыщина: 120 лет в Российкой иперии (1795 – 2015). Минск. "Смэлток". 2015
2. Вячка Целеш. Гарады Беларусі на старых паштоўках. Мінск. "Беларусь". 2014
3. Н. Быховцев. Волковыск межвоенный (1919 – 1939). Минск. "Смэлток". 2014
4. А.А. Шестимиров. Французско-русская серия 1893 года. Теперь Рига. Филокартия. № 5 (40), 2014
5. Индрек Иллометс. Первые открытки Тарту, Выру и Таллина. Новые данные. Филокартия. № 5 (40), 2014
6. Н. Быховцев. История просвещения на Волковыщине до 1915 года. Минск. "Смэлток". 2014
7. Tālis Pumpuriņš. Ieskats Baltija izdoto ilustrēto pastkaršu vēsturē (1972 – 1894). 4. simpozijs par Latvijas pasta vēsturi, Daugavpili 2010. g. 31 jūlijā. Brošūra latviešu un vācu valodā. Daugavpils - Hamburg, Harry v. Hofmann Verlag, 2010, 9. – 21. lpp.
8. А. Е. Хильковский. Издавал ли Алексей Сергеевич Суворин почтовые открытки? Филокартия № 1 (11), 2009
9. Талис Пумпуриньш. Французско-иркутская серия 1893 г. Иркутск. Филокартия № 1 (21), 2011
10. Сергей Мяник. Открытые письма фототипии Шерер, Набгольц и Ко.. Петербургский Коллекционер. 3 (53), 2009
11. А. Н. Ларина Анна Николаевна. Автореферат кандидатской диссертации "Документальная открытка конца XIX – начала XX в. в. как источник по истории и культуре Москвы". Москва. 2004
12. Satrap: http://www.forum.antique-photos.com/topic/1014-fotobumaga-satrap
13. Вячаслаў Целеш. Паштоўка. Якой ёй быць? Мастацтва Беларусі. № 1/1988, студзень (61)
14. Вячеслав Телеш. Первые рижские открытки. Наука и техника, № 11. Рига. 1984
15. Вячаслаў Целеш. Старыя ваўкавыскія паштоўкі. № 11/1984
16. Vjačeslavs Telešs. Pirmās Rīgas atklātnes. Zinatne un tehnika. Nr. 11, 1984
17. В. Вероцкий, М. Забочень, В. Киркевич. Киев на иллюстрированных открытках. Советский коллекционер. Филокартия. № 21. Москва. 1983
18. В. Телеш. Почтовые открытки рассказывают. Знамя Октября. № 141 (5121), 23 ноября 1978 года
19. В. Телеш. Волковыск. Начало века. Гродненская правда. 2 декабря 1978 года
20. Н. Тагрин. Мир в открытке. Москва. "Изобразительное искусство". 1978
21. М. С. Забочень. Филокартия (Краткое пособие-справочник). Издательство "Связь". Москва. 1973 г.
22. Газета "Tygodnik Wolkowyski". 1920-я – 1930-я годы
23. Moses Einhorn. Wolkovisker Yizkor Book. Volumes: 2. Nev York. 1949
24. Адресная книга книготорговцев, издателей, торговцев нот, редакций газет и журналов в России на 1903 – 1904. С.П.Б. 1903
25. Справочная книга по начальному образованию в министерских школах Волковысского уезда Гродненской губерни на 1913/14 учеб. год". Волковыск. Типография Я. Майзеля. 1913.
26. Сайт: www.radzima.org
27. Сайт: www.myvimu.com
28. Сайт: http://foto.volkovysk.by/

# ЗМЕСТ